**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 36 (804) 3 верасня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Навучэнцы выпускнога класа вядуць на 1-ы ўрок першакласнікаў.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

























ISSN 2077-8023


## Дубровенскі раён

# Вельмі важкі каравай

■ Чэслаў Якубовіч.

**У гэтым годзе няпростае спякотнае лета не пасціла хлебаробаў і былі апасенні, што страты вырашчанага ўраджаю збожжа будуць адчувальныя.**

З несрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі сутыкнуліся таксама і ў Дубровенскім раёне падчас веснавой сяўбы, у далейшым падчас паспявання хлябоў. Аднак тут спецыялісты і механізатары пастараліся захаваць тэхналогіі, працавалі старанна і атрымалі другую ў вобласці ўраджайнасць, у сярэднім па 43,2 цэнтнера на круг. Падобны паказчык вышэй, чым у сярэднім выйшла па Беларусі, што і дазволіла раёну атрымаць вельмі важкі каравай збожжа – 102 тысячы тон. На мясцовых землях раней такога ніколі не дабіваліся, адзначыў адзін з намеснікаў главы вобласці Уладзімір Цярэнц'еў на палетках ААТ "Бабровааграа", дзе і намалацілі стотысячную тону. Ён павіншаваў калектыў з выдатным працоўным дасягненнем і ўручыў экіпажам камбайнераў братоў Анатоля і Рыгора Ракавых , Юрыя і Міхаіла Курэадавых каштоўныя падарункі. Акрамя гэтай гаспадаркі на сёлетнім жніве вельмі ўраджайнымі аказаліся ўчасткі зерневых і зернебобовых культур і ў мясцовых сельгаспрадпрыемствах імя Чарняхоўскага, "Гігантагра", "Праўда". Дарэчы, акрамя дубровенцаў у гэтым годзе самымі "хлебнымі" ў Віцебскай вобласці сталі зноў з ураджайнасцю вышэй 40 цэнтнераў з кожнага гектара Аршанскі і Верхнядзвінскі раёны, да якіх упершыню далучыліся Бешанковіцкі і Пастаўскі. Між тым, на Пастаўшчыне спецыялізаваная насенняводчая гаспадарка "Хацілыагра" закончыла жніво з найбольшай у вобласці ўраджайнасцю хлеба, тут намалацілі па 80,5 цэнтнера/га.

## Полацкі раён

# Пакуль пераважна садзікі

■ Станіслаў Раманчук.

**По розных прычынах дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі застаецца няпростай, а найбольш праблем па-ранейшаму на Віцебшчыне.**

Вось чаму напярэдадні новага навучальнага года ў паўночным рэгіёне прыйшлося закрыць яшчэ 10 малакамплектных школ і яшчэ 30 устаноў адукацыі рэарганізаваць з больш нізкім статусам. У Прыдзвінні на базе 11 школ стварылі толькі дзіцячыя садзікі, а вось новых светлых школ даўно не ўзводзіцца. Бадай, адзіным выключэннем застаецца Полацкі раён, дзе да Новага года ў горадзе Наваполацку адчыніць свае дзверы, праўда, толькі пачатковая школа. Аднак яна размесціцца па суседстве з суперсучасным яслем-садзікам на 257 месц, які ўжо запрацаваў і куды маюць аддаць сваіх дзетак многія сем'і. У нафтаградзе і суседнім старажытным Полацку малых дзетак прыбавілася, і таму палачане пачалі працу над праектам пабудовы новага садка на 200 месцаў у новым буйным жылым мікрараёне былога аэрапорта. Тым часам у раёне ў аграгарадку Жарнасекі здалі ў эксплуатацыю з дапамогай спонсарскіх сродкаў банка ВТБ чарговы ў вобласці жылы дом для дзяцей-сірот. У адрозненне ад іншых рэгіянальных ВНУ, Полацкі дзяржуніверсітэт карыстаецца папулярнасцю ў моладзі. Нягледзячы на тое, што з 1 верасня кошт навучання тут павысіўся на 13 %, палачане справіліся з планам набору студэнтаў на бюджэтныя месцы. Дарэчы, мясцовы ПДУ ў сусветным рэйтынгу універсітэтаў заняў 7058 месца і ён не спыняецца ў сваім развіцці. У бліжэйшы час гэта ВНУ стане профільным агульнаадукацыйным кластэрам па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў у сферы будаўніцтва і будзе каардынаваць дзейнасць падобнага прафкаледжа і будаўнічых прафтэхвучылішч.

## Пастаўскі раён

# Наламаць дроў проста

■ Кастусь Александровіч

**Крыху больш двух гадоў назад па краіне пачаўся працэс аптымізацыі сістэмы мясцовага самакіра–вання і найбольш балюча ён закрануў на месцах сферу фізічнай культуры, спорту і турызму.**

Гэта галіна ў Беларусі страціла ў глыбінцы самастойнасць, каля 40 % спецыялістаў, стала дрэнна фінансавацца, пра што гаварылася днямі ў Паставах на выязной нарадзе пад старшынствам віцэ-прэм'ера Наталлі Качанавай. Пастаўскі раён быў выбраны месцам яе правядзення невыпадкова, бо ён адзіны ў дзяржаве пакінуў без змен дзеючую разгалінаваную сістэму аздараўлення насельніцтва і падрыхтоўкі спартыўнага рэзерву з правам юрыдычнай асобы, не стаў пазбаўляць самастойнасці. У выніку аддача ў гэтай важнай сферы дзейнасці на Пастаўшчыне толькі вырасла. Мясцовы фізкультурна-спартыўны клуб штогод мае звыш 1 млрд. рублёў даходу, у ім плённа працуюць 49 супрацоўнікаў. У Пастаўскай ДЮСШ штогод 11 трэнераў-выкладчыкаў рыхтуюць да 90 спартсменаў масавых разрадаў. Адразу 13 мясцовых валейбалістаў сталі кандыдатамі ў майстры спорту, а пастаўская каманда "Атлант-Д" двойчы была чэмпіёнам Беларусі ў 1-й лізе. У структуры мясцовага спартыўнага аб'яднання турысцкія і экскурсійныя паслугі плённа аказваюць ужо 5 розных арганізацый. Іншыя ж рэгіёны вобласці пра такое могуць толькі марыць. У выніку прайшоўшай нарады вырашана, што каштоўны вопыт пастаўчан па кіраванні масавай фізкультурай і спортам будзе распаўсюджаны і ў іншых гарадах і раёнах Беларусі.

# Аб самым надзённым

## РАЗМОВЫ АБ СУР'ЁЗНЫМ ЗАНЯПАДЗЕ СТАЛІЧНАГА МАЗА ЗУСІМ НЕ ПЕРАБОЛЬШАНЫЯ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сёння ўжо можна канстанаваць, што беларусы прайгралі канкурэнтную барацьбу і яшчэ ў канцы 2013 года МАЗ вымушаны быў пачаць пераходзіць на няпоўны працоўны тыдзень. У мінулым годзе большасць яго падраздзяленняў працавалі толькі 3 дні на тыдзень, у панядзелак-сераду, а аб'ёмы вытворчасці значна знізіліся, за выключэннем выпуска аўтобусаў.**

Асаблівасць сёлетняй выбарчай прэзідэнцкай кампаніі ў тым, што яна многіх беларусаў не вельмі хвалюе, бо людзей непакояць і нават трывожаць зусім іншыя праблемы. Восеньскія выбары пройдуць з прадказальным вынікам, а вось потым неўзабаве паўстане пытанне, што будзе далей прадстаячай зімой, як будуць жыць тыя, у каго ўжо зараз назіраюцца відавочныя цяжкасці на вытворчасці? У Беларусь разам з рэцэсіяй прыйшоў сапраўдны зацяжны эканамічны крызіс, што нядаўна прызнаў і сам глава Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька ў тэлепраграме "Клуб рэдактараў" на галоўным айчынным тэлеканале.

Сапраўды, як па іншаму ацаніць той факт, што ў студзені-маі сёлета, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, сталі стратнымі ўжо 1691 прадпрыемства і арганізацыя краіны, фактычна кожнае пятае, альбо 21,3 % ад агульнай колькасці суб'ектаў гаспадарання. За нейкі год іх страты падвоіліся, цяжкасцей і праблем са збытам прадукцыі, змяншэннем заказаў толькі прыбавілася на фоне найбольшага росту цэн у нас на прасторах СНД. Асноўны расійскі рынак збыту айчыннай прадукцыі з-за вядомых падзей вакол Крыма і Данбаса моцна "прасеў". Крэмль таксама мае фінансавыя цяжкасці і ўжо не можа ў ранейшых аб'ёмах крэдытаваць свайго саюзніка.

Люстэркам існуючых у нашай краіне эканамічных праблем стала трывожная сітуацыя на адным з флагманаў беларускай індустрыі, сталічным МАЗе. Усё больш дасведчаных спецыялістаў сведчаць, што светлай будучыні гэты аўтагігант не мае, яго лёс незайздросны з-за страты ранейшых рынкаў збыту. А вядомы эканаміст, дырэктар Бізнес-школы Інстытута прадпрымальніцтва і менеджмента Павел Дайнека нават папярэдзіў, што мінскі аўтазавод апынуўся на мяжы выжывання, пры далейшым дрэнным развіцці падзей увогуле можа быць і ліквідаваны. Калі разабрацца, падставы для такіх прагнозаў ёсць і яшчэ летась у жнiўні буйныя расійскія СМІ канстатавалі, што наш МАЗ "готов заглохнуть".

Апошнім паспяховым для мазаўцаў быў 2012 год, калі яны выпусцілі і прадалі 22854 грузавікі і звыш 2 тысяч аўтобусаў розных мадыфікацый, у асноўным у Расію (туды ішло 80 % збыту МАЗа). Але затым расійскі ўрад паставіў нам ультыматум: альбо беларусы ўвойдуць у новы сумесны холдынг "РосБелаўта" з кантрольным пакетам у расіян, альбо айчынныя грузавікі пачнуць канкурыраваць з сур'ёзна абноўленымі КамАЗамі. Сапраўды, нашы расійскія канкурэнты змаглі правесці рэструктурызацыю і мадэрнізацыю, укаранілі нямецкія тэхналогіі, свайго акцыянера "Daimler", вядомага ў свеце аўтамабілямі "Мерсэдэс". Акрамя гэтага яшчэ Расія ўвяла ўтылізацыйны збор для імпартных машын і ў беларускага аўтазавода грузавікоў праблемы сталі нарастаць, як снежны ком.

Сёння ўжо можна канстанаваць, што беларусы прайгралі канкурэнтную барацьбу і яшчэ ў канцы 2013 года МАЗ вымушаны быў пачаць пераходзіць на няпоўны працоўны тыдзень. У мінулым годзе большасць яго падраздзяленняў працавалі толькі 3 дні на тыдзень, у панядзелак-сераду, а аб'ёмы вытворчасці значна знізіліся, за выключэннем выпуска аўтобусаў. Сёлета вясной на нейкі час на сталічным аўтазаводзе спынялі нават галоўны канвеер на 10 дзён, пачаліся пэўныя праблемы з выплатамі ў тэрмін заробкаў, якія ў многіх завадчан істотна зменшыліся. Праўда, і ў самой Расіі цяпер ёсць праблемы і ў КамАЗа, ён таксама стаў спыняць вытворчасць на паўмесяца і болей, а шведскі аўтагігант Volvo ўвогуле закрыў свой зборачны завод у Туле.

Як ні горка, але з-за шэрагу негатыўных тэндэнцый у нашых галоўных пакупнікоў маюць падобныя праблемы і іншыя беларускія машынабудаўнічыя заводы. У выніку толькі ў мінулым годзе выпуск такой айчыннай тэхнікі, у першую чаргу грузавікоў МАЗа скараціўся на 50 %. Адначасова пачаўся і працягваецца горкі працэс скарачэння рабочай сілы: калі 2 гады назад на сталічным аўтазаводзе працавалі 22 тысячы рабочых і служачых, то цяпер іх колькасць зменшылася да 16 тысяч. Пры дрэнным развіцці сітуацыі на МАЗе могуць быць далейшыя скарачэнні персаналу і ўзнікне сацыяльная напружанасць. Пакуль жа даходы многіх завадчан значна зменшыліся, бо раней у лепшыя часы асобныя з іх атрымоўвалі нават па 11-13 млн. рублёў у месяц, а цяпер за шчасце будзе прынесці дамоў 4-5 мільёнаў. Асобныя мазаўцы пачалі шукаць падпрацоўку ў дні прастою.

Аднак на МАЗе ў поўным парадку аўтобусная вытворчасць, дзе праца ідзе ў тры змены. Таксама аўтазаводцы актыўна шукаюць выхад з тупіка і зараз адмовіліся ад неразумнай ранейшай тактыкі працаваць на склад, стараюцца, як і іншыя беларускія вытворцы, адшукаць новыя рынкі збыту грузавікоў. Як падаецца, хаваць наш беларускі аўтапрам пакуль ранавата, хоць праблем хапае. На шчасце, патэнцыял у беларускіх аўтазаводцаў, таго ж БелАЗа захаваўся і ён даволі высокі. Толькі ў чэрвені расіянам удалося прадаць 266 грузавых аўтамабіляў МАЗ, гэта тэхніка па-ранейшаму ўваходзіць у тройку самых прадаваемых аўто на расійскіх прасторах. Аднак усе нашы вытворцы ўздыхнуць свабодней і зажывуць лепш тады, калі закончыцца крызіс у Расіі, бо іншага пакуль проста не дадзена.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.09.15 | | | | Пятніца 04.09.15 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +13 | +19 | +13 | +10 | +11 | +19 | +13 |
| Ціск | 743 | 744 | 745 | 746 | 747 | 747 | 746 | 744 |
| Вецер м/сек | 4 | 4 | 4 | 3 | 2 | 1 | 3 | 6 |
| | С-З | С-З | С-З | С | С | С-В | Ю-В | Ю-В |
| Вільготнасць | 100 | 99 | 57 | 89 | 100 | 100 | 61 | 85 |

| | Субота 05.09.15 | | | | Нядзеля 06.09.15 | | | | Пан. 07.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +14 | +19 | +12 | +10 | +11 | +18 | +10 | +8 | +10 | +15 |
| Ціск | 740 | 739 | 740 | 742 | 742 | 742 | 741 | 740 | 739 | 739 | 739 |
| Вецер м/сек | 8 | 4 | 6 | 2 | 3 | 3 | 4 | 2 | 2 | 3 | 4 |
| | Ю-В | Ю-З | З | З | Ю | Ю-З | Ю-З | Ю | Ю | З | С-З |
| Вільготнасць | 100 | 100 | 64 | 83 | 81 | 84 | 51 | 86 | 96 | 98 | 79 |

## Дзень за днём

**Беларусь увяла забарону на пастаўкі свініны з шэрагу рэгіёнаў Расіі з-за АЧС. Жылля ў Беларусі сёлета пабудуюць на 40 % меней, чым у паспяховым 2010 годзе. Два месяцы запар беларусы пераводзілі рублёвыя ўклады ў валютныя. Усе банкі пачалі прадаваць долары даражэй 16 тысяч. Беларусь не атрымае хутка крэдыт 3 млрд. USD ад банка ЕўрАзЭС. А. Лукашэнка даручыў правесці перапіс насельніцтва ў рэжыме жорсткай эканоміі. З-за моцнай спёкі пад пагрозай апынуўся сёлета ўраджай бульбы. У айчынных магазінах з'явіўся і беларускі самагон заводскай вытворчасці.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Цэнтрабанк краіны правёў дэвальвацыю сваёй нацвалюты юаня на рэкордныя за апошнія 20 гадоў 3,5 %, каб спыніць негатыўныя праблемы ў кітайскай эканоміцы.

**Расія.** У другім квартале года спад расійскай эканомікі склаў яшчэ 4,6 %, услед за фінансавым крызісам пачалася рэцэсія, хуткі выхад з крызісу стаў малаверагодным.

**Іран.** Эксперты Сусветнага банка пацвердзілі, што зняцце з краіны эканамічных санкцый знізіць у 2016 годзе сусветныя цэны на нафту на 10 USD і стане ўдарам па Расіі.

**Нарвегія.** Урад краіны вырашыў абмяжаваць уезд на архіпелаг Шпіцберген расійскім чыноўнікам і грамадзянам, уключаным у санкцыйныя спісы неўязных ЕС.

**Галандыя.** Міжнароднай следчай групе з экспертаў 5 краін свету перадалі для вывучэння знойдзеныя дэталі з ракетнага зенітнага комплексу "Бук", які збіў "Боінг" над Данецкам.

**ЗША.** ДзяржДэпартамент ЗША заявіў, што авіярэйс MH17 збілі прарасійскія баевікі ракетай "зямля-паветра" і будзе дабівацца пакарання вінаватых у гібелі 298 авіяпасажыраў

**Ірак.** На поўначы краіны баевікі экстрэмісцкай групоўкі "Ісламскай дзяржавы" прымянілі ля горада Махмур супраць байцоў курдскага апалчэння хімічную зброю.

**Украіна.** Міністр абароны Англіі Майкл Фэллон пацвердзіў у Кіеве, што брытанцы павялічаць дапамогу ўкраінскай арміі ў барацьбе з расійскай агрэсіяй супраць Украіны.

**Японія.** Упершыню праз 4 гады пасля катастрофы на АЭС "Фукусіма-1" урад краіны вырашыў перазапусціць адразу 25 ядзерных рэактараў, аднавіць працу атамных станцый.

**КНДР.** Па загадзе "правадыра" Кім Чэн Ына за крытыку правадзімай палітыкі ў галіне лясной гаспадаркі расстралялі I-га віцэ-прэм'ера ўрада краіны Чхве Ён Гона.

**Расія.** Падчас няпростых перамоў па Сірыі з калегамі з Саудаўскай Аравіі глава МЗС РФ С. Лаўроў не стрымаўся, брудна вылаяўся і публічна абазваў іх "дэбіламі".

**Украіна.** Падчас візіту глава МЗС Беларусі У. Макей адназначна выказаўся за падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці краіны, Данецкая і Луганская вобласці будуць ва Украіне.

**Літва.** У яшчэ адной фермерскай гаспадарцы паблізу Тракая выявілі АЧС у зоне 10 км адчуджэння, гэты выпадак свіной чумы стаў сёлета трэцім па ліку ў краіне.

**Германія.** Былы віцэ-прэм'ер урада РФ А. Кох папярэдзіў, што прапанова Д. Мядзведзева абмежаваць колькасць жывёлы і птушкі, як пры Хрушчове, прывядзе да распаду Расіі.

**Расія.** Хоць 48 % расіян супраць знішчэння прадуктаў, Пуцін пашырыў санкцыі на ежу супраць яшчэ 5 краін свету Албаніі, Чарнагорыі, Ісландыі, Ліхтэнштэйна і Украіны.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Вядомы вучоны-сацыёлаг С. Нікалюк заявіў, што і дзяржаўныя СМІ зараз у стане пэўнай разгубленасці, грамадства не ўсведамляе, якія праблемы чакаюць краіну неўзабаве.

**Барысаў.** З-за змены мадэльнага раду і затрымкі машынакамплектаў з Кітая аўтазавод "БелДжы" прыпыніў сваю працу, работнікаў адправілі ў водпускі з аплатай 2/3 заробкаў.

**Чэрвень.** Жыхары райцэнтра даведаліся, што іх зямляк, 44-гадовы касманаўт Алег Навіцкі зноў паляціць у космас у 2017 годзе ў складзе міжнароднай экспедыцыі на МКС.

**Мінск.** Былы глава парламента С. Шушкевіч заявіў, што Пуцін дзейнічае ў Данбасе як пахан, а не глава дзяржавы, бо нічога лепей рабіць не ўмее, ён дабіў эканоміку за 15 год.

**Горкі**. Да 3-х гадоў турмы пагражае 24-гадоваму камбайнёру, які прама ў полі прадаў 7,5 тоны азімай пшаніцы новага ўраджаю свайму аднавяскоўцу, але крадзеж сарваўся.

**Мінск.** Падатковая інспекцыя Ленінскага раёна сталіцы ўнесла ў спіс невыязных за граніцу 49 мінчан за запазычанасці перад бюджэтам, 19 – забаранілі ездзіць на аўто.

**Гродна.** Падамоўленасці з польскімі калегамі Беларуская чыгунка са снежня прадоўжыць рух ранішняга пасажырскага цягніка праз Беласток і Малкінію да Варшавы.

**Светлагорск.** Вечарам на трасе на Сасновы Бор канфіскавалі самаробны трактар у 41-гадовага жыхара вёскі Загор'е за паўторную язду на падпітку і без правоў на кіраванне.

**Жлобін.** Пасля вызвалення з турмы бухгалтар-махляр зноў змагла ўладкавацца на яшчэ больш высокую пасаду ў бухгалтэрыі і паўторна здзейсніла падобнае злачынства.

**Мінск.** Усіж жадаючых брали вучыцца платна ВНУ сталіцы, але БНТУ не дабраў 50 першакурснікаў, БАТУ – 20, БДПУ імя М. Танка – 14 студэнтаў-філолагаў.

**Гомель.** Да прыезду ў абласны цэнтр кіраўніка БПЦ, мітрапаліта Паўла па праваслаўнай традыцыі ля сабора выслалі шматметровы дыван з жывых кветак на цэлы грузавік.

**Мінск.** Сусветна вядомая пісьменніца С. Алексіевіч заявіла, што для Беларусі найлепш было б пайсці ў бок Еўропы, інакш Расія можа і нас уцягнуць у вялікую страшную вайну.

**Дзятлава.** Супрацоўнікам ДАІ прыйшлося адкрыць стральбу па калёсах падчас пагоні за п'яным 23-гадовым хлопцам, які ўгнаў трактар, не маючы пасведчання механізатара.

**Светлагорск.** Суд аштрафаваў на 18 млн. рублёў беспрацоўнага гараджаніна, які голым прыйшоў у магазін апахмяліцца, яго накіруюць на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

**Рэчыца**. Ураджэнец горада, 34-гадовы веласіпедыст, заслужаны майстар спорту Васіль Кірыенка заняў 2-е месца на міжнароднай велагонцы Тур Польшчы сярод 152 раварыстаў.

# Жураўкоў: хатнія заданні ў школах застануцца, а ўтрыманне падручнікаў зменіцца



■ TUT.BY

**«Адмовіцца ад хатніх заданняў немагчыма. Іншая справа – вызначыць, якім павінен быць іх аб'ём». Так пракаментаваў нядаўнюю ініцыятыву лекараў аб зніжэнні нагрузкі на школьнікаў міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў у праграме «Буйным планам» на тэлеканале «Беларусь 1».**

Сёння па нормах школьнік павінен траціць на выкананне хатняга задання не больш як дзве з паловай гадзіны. На справе выкананне ўрокаў займае ў дзяцей па 3-4 гадзіны, кажуць лекары. Як вынік – частыя хваробы і недахоп вольнага часу на спорт і іншыя заняткі па інтарэсах.

– Мы праводзілі велізарную колькасць розных даследаванняў і з медыкамі, і з псіхолагамі, і з іншымі спецыялістамі. Адназначнае рашэнне: хатнія заданні вучню неабходныя. Іншая справа – вызначыць, якім павінен быць аб'ём хатняга задання і вучэбнай нагрузкі ў школе, – лічыць міністр адукацыі.

Міхаіл Жураўкоў пракаментаваў і якасць падручнікаў. Ён прызнаў, што сёння ў іх можна сустрэць даволі шмат недакладнасцяў і адкрытых ляпаў. Зараз міністэрства займаецца перапрацоўкай школьных дапаможнікаў.

– Мы адмовіліся ад старога прынцыпу, калі канкрэтнаму калектыву давалася заданне напісаць падручнік, – распавёў Міхаіл Жураўкоў. – Зараз міністэрства аб'яўляе конкурс на напісанне або ўсяго падручніка, або канкрэтнага падзелу. І любы калектыў або асобны аўтар можа падаць сваю заяўку з кароткім апісаннем таго, што ён хацеў бы адлюстраваць у сваёй працы.

Міністр паабяцаў, што да выбару найбольш якаснага і аптымальнага варыянту падручнікаў, акрамя настаўнікаў і прафесараў, падключаць яшчэ і саміх вучняў, а таксама іх бацькоў.

Падчас інтэрв'ю Міхаіл Жураўкоў закрануў і тэму навешвання на настаўнікаў неўласцівай ім бюракратычнай нагрузкі. Па словах міністра, на працягу наступнага навучальнага года гэтая праблема будзе цалкам вырашана.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** За даўгі спецыялісты райэнергазбыта адключылі падчас уборкі збожжа мясцовы камбінат хлебапрадуктаў, ён запрацаваў пасля ўмяшання ў сітуацыю кіраўніцтва вобласці.

**Дуброўна.** Абласны суд вызваліў ад крымінальнай адказнасці 60-гадовага хірурга мясцовай ЦРБ згодна закона аб амністыі, па віне якога хлопчык застаўся без левай рукі.

**Глыбокае.** На базе камбікормавага завода глава вобласці М. Шарстнёў правёў семінар-нараду па пытаннях стварэння ў рэгіёне новых буйных інтэграваных структур АПК.

**Верхнядзвінск.** Яшчэ адзін 38-гадовы беларускі вадзіцель фуры В. Бацяноўскі збег назад у Беларусь з партыяй ялавічыны ад расійскіх мытнікаў і ветэрынараў, ратуючы свой груз.

**Паставы.** У разгар жніва падаў у адстаўку першы намеснік главы раёна, яго на пасадзе начальніка райсельгасхарча замяніў 45-гадовы старшыня ААТ "Кураполле-агра" С. Чэпік.

**Руба.** Адразу 97 сем'яў з дачных пасёлкаў па абодвух берагах Дзвіны пусцілі па рацэ свечкі ў знак смутку па іх дамах, яны пойдуць пад знос з-за будаўніцтва Віцебскай ГЭС.

**Шуміліна.** У ходзе пошукавых работ ля вёскі Мікалаёва знайшлі астанкі 9 загінуўшых у 1941 годзе 9 чырвонаармейцаў, прозвішчы чатырох з іх устанавілі па медальёнах.

**Полацк.** Для абслугоўвання жыхароў амаль 300 аддаленых вёсак раённы вузел паштовай сувязі купіў для паштальёнаў 6 новых аўтамабіляў, яны ездзяць туды 5 разоў на тыдзень.

**Лепель.** З траўмамі даставілі ў бальніцу вадзіцеля "Рэно" і траіх яго пасажыраў, сярод якіх былі жонка і маленькі сын, ДТЗ адбылася на трасе на Віцебск, дзе аўтамабіль перакуліўся.

**Шаркаўшчына.** У мястэчку Германавічы пачалася работы па добраўпарадкаванні старога парку сядзібнага тыпу, яму вернуць стара даўні стыль, на Дзісне будзе пірс для лодак.

**Віцебск.** З-за спёкі і адсутнасці ападкаў вельмі моцна абмялела рака Заходняя Дзвіна, узровень вады ў ёй апусціўся да гістарычнага мінімуму, такія працэсы ідуць другі год.

**Глыбокае.** Да радасці гараджан у пачатку восені завершыцца рэканструкцыя гарадской лазні, тут адкрыецца ў верасні другі басейн, з'явіцца новае абсталяванне і камфорт.

**Мёры.** У гонар воінаў-вызваліцеляў горада пры дапамозе Міністэрства абароны Беларусі адкрылі на вуліцы Юбілейнай мемарыяльны знак з гарматай Д-44 часоў вайны.

**Віцебск.** За пяць дзён у абласным цэнтры былі пабіты 6 тэмпературных рэкордаў лета, у самы цёплы паветра раскалілася да 34,5 градусаў, вельмі цёпла было і ноччу.

**Наваполацк.** З-за сістэматычных даўгоў па зарплаце яшчэ з мінулага года ФК "Нафтан" зламаўся псіхалагічна, прайграў 6 запар матчаў у чэмпіянаце Беларусі па футболе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Глыбокае сказала лету: “Бывай!”



Школа – яшчэ праз тры дні! А сёння бавім час на каруселі!




Калектыў дзіцячага садка №5 са сваёй кампазіцыяй на выставе кветак.

■ Уладзімір Скрабатун

У нашым горадзе даўно навучыліся праводзіць шыкоўныя і масавыя святочныя мерапрыемствы. Можна сказаць, што ў нас сезон святаў пачынаецца з Масленіцы і сканчаецца Новым годам. А паміж імі: вясновы кірмаш, 1 траўня, 9 траўня, Міжнародны дзень абароны дзяцей, 3 ліпеня, Вішнёвы фэст... восеньскі кірмаш. Бачна, што глыбачане ўмеюць не толькі добра працаваць, але і цудоўна адпачыць. Прыходзяць на святы сем’ямі.

У мінулую суботу Глыбокае з вялікім размахам адзначыла свята развітання з летам – выставай кветак і забаўляльнымі атракцыёнамі. Ды й дзень гэты быў па-летняму цёплы, ніякай восеньскай прахалоды.

Прадпрыемствы і ўстановы горада падрыхтавалі да свята штогадовую традыцыйную выставу кветак. Кожны калектыў паспрачаўся ва ўнікальнасці і прыгажосці сваіх кампазіцый, дзе асноўным кампанетам былі кветкі канца лета і пачатку восені.

У межах свята, якое прайшло на галоўнай плошчы горада, былі арганізаваныя разнастайныя атракцыёны, конкурсы для дзяцей і моладзі, выстава кніг, дэманстрацыя мультфільмаў, батлейка, школьны кірмаш.

Водны атракцыён з шарамі для тых, хто прагне яркіх эмоцый!



Пад вясёлыя песні сваіх аднагодкаў са сцэны – не ўтрымаешся, каб не кінуцца ў скокі!



# У Глыбокім напрыканцы лета расквітнела акацыя

■ Уладзімір Скрабатун

**У Глыбокім, па вул. Чапаева, 8, напрыканцы лета нечакана расквітнела акацыя! Праўда, не ўпершыню! У мінулым годзе, у гэты ж самы час, яна таксама квітнела… І зімы фактычна не было. І гэта — у Глыбокім, дзе сярэдняя тэмпература заўсёды на 5° халаднейшая, чым на Берасцейшчыне!**

Ужо ў сярэдзіне мінулага лютага гэтага года глыбоцкія рыбакі злезлі з лёду з-за небяспекі патануць, а снегу, за ўсю зіму, другі год запар так і не выпала.

Праўда, гатунак гэтай акацыі нейкі незвычайны. Акацыя, як акацыя – лістота адпаведная, а вось кветкі па колеру не белыя, а бэзавыя!

Ну, калі і трэці год запар не будзе зімы – пайду ў Глыбоцкі дэндрасад з ініцыятывай – зрабіць пітомнік з насенняў гэтай акацыі, ды ўсе прысады ў скверах Глыбокага аформіць з пасадак гэтага прарочага дрэва.

Уяўляеце, цэлая алея акацыі ў Глыбокім (ці дэндрасадзе), якая квітнее напрыканцы лета!



**По вул. Чапаева ў Глыбокім расквітнела акацыя.** 26.08.2015.

# Сокі без вады і цукру пачнуць выпускаць у Талачыне… а маглі б і ў Глыбокім!

Сокі для здаровага харчавання з пладоў і ягад неўзабаве з’явяцца на прылаўках крам. На Талачынскім кансервавым заводзе ў бліжэйшыя дні запусцяць сучаснае абсталяванне па іх вытворчасці.

Унікальнасць прадукцыі — у адсутнасці ў ёй вады і цукру: сок ад прэса будзе адразу паступаць на лінію разлівання. Дзякуючы гэтаму ён будзе больш карысным і багатым вітамінамі.

Асартымент сокаў будзе шырокі, іх збіраюцца выпускаць з дзікарослых і культурных пладоў і ягад. Распрацавана рэцэптура, праведзены маніторынг сярод насельніцтвы.

Італьянскія адмыслоўцы на працягу двух месяцаў правядуць для семярых супрацоўнікаў новага цэха заняткі па працы на сучасным абсталяванні.

*Вольга Лебедзева.*

# Сярэдні заробак у Літве вырас да 714 еўра

**Сярэдні налічаны (брута) заробак у Літве ў другім квартале дасягнуў 713,9 еўра — на 4,6% больш, чым за такі ж перыяд 2014-га, паведамляе Delfi са спасылкай на Дэпартамент статыстыкі.**

Сярэдняя выплачаная (чыстымі) зарплата ў краіне за аналагічны перыяд вырасла на 4,4% да 553,8 еўра.

Нагадаем, што сярэдні заробак у Беларусі («бруднымі») у ліпені 2015 года павялічыўся на 125 тыс. і склаў 7 млн 8 тыс. 600 рублёў.

Аднак праз дэвальвацыю рубля сітуацыя не выглядае такой радаснай. Па цяперашнім курсе еўра (20 474 на 26 жніўня) за сярэдні заробак можна набыць 342 адзінкі еўрапейскай валюты.

*Delfi.*



# На Глыбоччыне праходзіць «Магніфікат-2015»



**У нядзелю 30 жніўня ў мінскай катэдры адбылося адкрыццё Міжнароднага каталіцкага фестывалю хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм «Magnificat-2015».**

**■ Зміцер Лупач**

Сёлетні фестываль ужо адзінаццаты па ліку. Ён сабраў у Мінску ўдзельнікаў з усяго свету. Свае стужкі на грамадскі прагляд прадставілі рэжысёры з шаснаццаці краін.

Фестываль распачаўся святой Імшой, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі **арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**.

У сваім звароце да ўдзельнікаў фестывалю ён, у прыватнасці адзначыў:

– Сучасны свет – гэта свет мас-медый, якія ўсё больш і больш уплываюць на фармацыю чалавека і грамадства. На вялікі жаль, яны перапоўнены сцэнамі эротыкі, гвалту, карупцыі, імкнення да багацця ці ўлады любымі сродкамі і г.д. Прапаганда бездухоўнага і нязгоднага з Божым законам стылю жыцця прадстаўляецца як свабода і прагрэс.

Пасля сімвалічнага «Стоп, знята», якім пачаўся кінафестываль, удзельнікі скіраваліся ў Чырвоны касцёл, дзе іх прывітаў ксёндз-пробашч Уладзіслаў Завальнюк.

У панядзелак 31 жніўня ў 12 гадзін фестываль прыехаў у Глыбокае. Гасцей урачыста сустракалі на Цэнтральнай плошчы Глыбокага. Пасля прывітальных словаў, з якімі выступілі старшыня кінафестывалю рэжысёр Юрый Гарулёў, сябра журы Алег Вінярскі, старшыня Глыбоцкага райсавета Галіна Унуковіч.

**Юрый Гарулёў** адзначыў:

– У кожнага чалавека ёсць месца яго народзінаў, самае важнае месца. Але ёсць яшчэ гарады і вёскі, у якіх адбываліся якія-небудзь адметныя падзеі ў яго жыцці. Для тых, хто стварае «Магніфікат», хто ўдзельнічае ў ім, такім месцам ужо адзінаццаць гадоў з'яўляецца Глыбокае.

**Алег Вінярскі**, якога называюць голасам кінафестывалю, у сваім слове сказаў:

– Мы будзем піць асалоду мастацкай творчасці, далучэння да нашых каранёў, беларускіх каранёў. Таму што тут будзе жыць беларускае слова, а гэта далучэнне да еўрапейскай цывілізацыі.

Пасля прывітальных слоў удзельнікі кінафестывалю прайшлі ўрачыстым шэсцем па цэнтральнай вуліцы горада і ўсклалі вянок да помніка загінуўшым воінам у скверы Перамогі.

Фестываль будзе праходзіць да 3 верасня. Мерапрыемствы праходзяць у Удзеле, Мосары, Падсвіллі, Івесі, ну і, вядома ж, Глыбокім.

Мы спыталі ў кіраўніка «Магніфікату» **Юрыя Гарулёва** пра адметнасць сёлетняга фестывалю:

– Адметнае тое, што сёлета ў фестывалі прымае ўдзел 16 краін. Гэта не рэкорд, але і не меней, як у мінулым фестывалі. Але адзін рэкорд усё ж ёсць – мы зараз прывезлі 52 работы нашых рэжысёраў.

Пра вынікі «Магніфікату» мы пазнаёмім нашых чытачоў у наступным нумары газеты.



# 80 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Падлужнага

**Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь, вядомага беларускага лінгвіста, доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка Аляксандра Іосіфавіча Падлужнага.**



**Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

Нарадзіўся ён 16 жніўня 1935 года ў вёсцы Залессе Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1954 годзе скончыў Мсціслаўскае педвучылішча, у 1959 годзе – аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Раснянскай сярэдняй школе Дрыбінскага раёна. У 1962-1964 гадах вучыўся ў аспірантуры Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа. У 1967 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму “Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы”, потым працаваў на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка інстытута мовазнаўства. З 1969 года А.І. Падлужны працаваў загадчыкам лабараторыі эксперыментальнай фанетыкі (з 1990 года – аддзела эксперыментальнай фанетыкі). У 1981 годзе А.І. Падлужны абараніў доктарскую дысертацыю на тэму “Фанетычная сістэма беларускай мовы”. У ёй “А.І. Падлужны ўпершыню ў беларускім мовазнаўстве прывёў атрыманыя эксперыментальным шляхам звесткі пра акустычную будову маўлення і асаблівасці яго ўспрымання, зрабіў класіфікацыю акустычных прыкмет маўленчага сігналу, устанавіў сегментную структуру беларускага маўлення і прапанаваў акустычную класіфікацыю гукаў на аснове гэтай структуры”. (А.А. Лукашанец)

З 1982 года А.І. Падлужны – доктар філалагічных навук, з 1989 года – прафесар.

З 1983 года вучоны працаваў на пасадзе намесніка дырэктара інстытута мовазнаўства па навуковай рабоце. З 1992 года ён узначаліў аддзел сучаснай беларускай мовы. З 1989 года па 2003 год з’яўляўся дырэктарам Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. З 1994 года А.І. Падлужны – акадэмік НАН Беларусі. Адначасова з 1997 па 2002 года А.І. Падлужны быў акадэмікам-сакратаром Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі.

А.І. Падлужны – аўтар больш 150 навуковых прац, у тым ліку 16 манаграфій па розных праблемах беларускай фанетыкі і фаналогіі, сучаснай беларускай лексікалогіі, граматыкі, правапісу і культуры мовы, моўнай палітыкі. Вучоны з’яўляўся заснавальнікам беларускай фанетычнай школы. Ён стварыў у Інстытуце мовазнаўства лабараторыю эксперыментальнай фанетыкі, у якой былі праведзены даследаванні вуснай беларускай мовы.



Асноўныя навуковыя працы А.І. Падлужнага: “Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы” (1969), “Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы” (1977), “Фанетыка слова ў беларускай мове” (1983), суаўтар кнігі “Фанетыка беларускай літаратурнай мовы” (1989), “ Беларуская мова для тых, хто гаворыць па-руску” (1990), “Падручнік беларускай мовы. Для самаадукацыі” (1994), хрэстаматыя “Вусная беларуская мова” (1990), зборнік “Пытанні культуры пісьмовай мовы” (1991), вучэбны дапаможнік “Фанетыка беларускай мовы” (1984), суаўтар “Беларускай граматыкі” (Ч.1, 1985) і іншыя.

А.І. Падлужны – галоўны рэдактар штогодніка “Беларуская лінгвістыка” (з 1989г) і часопіса “Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук” (з 1997 г).

У 90-я гады акадэмік А.І. Падлужны ўзначаліў працу па ўдасканаленні беларускага правапісу. Ён быў намеснікам старшыні Дзяржаўнай камісіі па ўдасканаленні беларускага правапісу, узначаліў рабочую групу па падрыхтоўцы праекта новай рэдакцыі “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. Увядзенне ў дзеянне новых “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” павінна было забяспечыць адзінства правапісных норм сучаснай беларускай літаратурнай мовы і яе паспяховае вывучэнне ў школах краіны.

Адначасова А.І. Падлужны праводзіў вялікую прапагандысцкую работу па растлумачэнні сутнасці прапанаваных змен у беларускім правапісе, аб чым сведчылі яго публікацыі ў друку.

Некаторыя працы Падлужнага адрасаваны тым, хто практычна вывучае беларускую мову. Ён адзін з аўтараў кнігі “Беларуская мова для небеларусаў” (1973, 1978). Трэцяе, перапрацаванае і дапоўненае выданне гэтай кнігі выйшла ў 1990 годзе пад назвай “Беларуская мова для тых, хто гаворыць па-руску”.

А.І. Падлужны быў членам рэдкалегіі і адным з найбольш актыўных аўтараў энцыклапедыі “Беларуская мова” (1994), якая з’яўляецца найбольш поўным і аўтарытэтным даведнікам па самых разнастайных пытаннях сучаснай беларускай мовы.

А.І. Падлужны цікавіўся таксама праблемамі беларускай лексікалогіі і беларускай навуковай тэрміналогіі. Пад яго рэдакцыяй апублікавана манаграфія “Пытанні тэорыі і практыкі беларускай навуковай тэрміналогіі”. Вялікую практычную работу А.І. Падлужны ажыццяўляў як старшыня Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Навуковая дзейнасць А.І. Падлужнага вядома і за межамі Беларусі. Многа гадоў ён з’яўляўся членам камісіі па фанетыцы і фаналогіі пры Міжнародным камітэце славістаў, членам рабочай групы Міжнароднай камісіі па “Агульнаславянскім лінгвістычным атласе”, прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы гэтага буйнейшага славістычнага праекта XX-XXI стст.

“Сваю шматгранную навуковую работу А.І. Падлужны спалучаў з вялікай навукова-арганізацыйнай дзейнасцю. Працуючы на працягу 20 гадоў намеснікам дырэктара па навуковай рабоце і дырэктарам Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, А.І. Падлужны фактычна ажыццяўляў каардынацыю ўсёй лінгвістычнай навукі ў Беларусі, а на пасадзе акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі вызначаў кірункі даследаванняў у галіне ўсёй гуманітарнай навукі ў краіне”, - адзначаў А.А. Лукашанец, дырэктар Інстытута мовазнаўства.

А.І. Падлужны праводзіў вялікую работу па падрыхтоўцы філалагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі. Ён падрыхтаваў 12 кандыдатаў навук. Сярод яго вучняў некалькі доктараў навук.

Аляксандр Іосіфавіч на працягу многіх гадоў чытаў лекцыі па беларускай мове для студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ, быў членам Прэзідыума навукова-метадычнага савета Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь па падручніках, узначальваў савет па абароне доктарскіх дысертацый пры Інстытуце мовазнаўства, з’яўляўся членам савета па абароне дысертацый пры БДУ.

Навуковая дзейнасць і работа А.І. Падлужнага па падрыхтоўцы кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў галіне беларускага мовазнаўства атрымалі высокую адзнаку дзяржавы. У 1989 годзе ён абраны членам-карэспандэнтам, а ў 1994 годзе – акадэмікам НАН Беларусі. А. Падлужны ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР (1983), ордэнам “Знак Пашаны” (1986) і шматлікімі Ганаровымі граматамі Прэзідыума НАН Беларусі. Яму прысвоена ганаровае званне “Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь” (1999).

Я добра ведаў А.І. Падлужнага. Разам вучыліся на філалагічным факультэце БДУ, жылі ў адным пакоі інтэрната па вуліцы Бабруйскай. Аляксандр выдатна вучыўся, старанна рыхтаваўся да семінарскіх заняткаў і калоквіумаў. Ужо студэнтам ён ведаў, што пасля заканчэння аспірантуры будзе вывучаць фанетыку беларускай мовы. Так яно і сталася. Прайшоў вялікі працоўны шлях ад простага настаўніка да акадэміка. Памёр Аляксандр Падлужны 21 лістапада 2005 года. Яму было 70 гадоў. Гэта малады ўзрост для акадэміка. Пакінуў вялікую навуковую спадчыну. Яго кнігі дапамагаюць настаўнікам у выкладанні роднай мовы на высокім навуковым узроўні.




# Захоўвайце сваё здароўе з маладосці!

**Надыходзіць новы навучальны год, а значыць, усім, хто мае дачыненне да школы – ад пачатковай да вышэйшай, – прыйдзецца зноў садзіцца за парты.**

■ **Е.А. Волахава,** *урач-інтэрн*

І кабгэтанепрычыняла шкоды здароўю, варта выконваць пэўныя правілы, якія дапамогуць захаваць **правільную асанку**:

■ нельга, каб дзіця насіла партфель у адной і той жа руцэ, гэта прывядзе да скрыўлення пазваночніка; пусты ранец не павінен быць занадта цяжкім (аптымальная маса 500-800 г); вага ранца з падручнікамі не павіненна быць вышэй за 10% ад масы цела вучня; пажадана, каб ранец быў з цвёрдай спінкай;

■ школьная мэбля павінна адпавядаць узросту, а таксама вазе і росту дзіцяці, асаблівa росту;

■ правільнае становішча за працоўным сталом выглядае так: паміж тулавам і краем працоўнага стала адлеглась у далонь, нельга абапірацца грудзьмі аб бок стала, адлеглась ад вачэй да парты 30-35 см, локаць на 5 см ніжэй краю стала, а пры чытанні крэсла павіненна заходзіць пад вечка стала на некалькі сантыметраў (3-5 см);

■ правільнае становішча цела трэба захоўваць заўсёды; дома павінна быць падыходная дзіцячая мэбля, і трэба выконваць правілы знаходжання за працоўным сталом;

■ забяспечце працоўны стол школьніка добрым асвятленнем, што дазволіць прадухіліць залішні нахіл да стала для таго, каб нешта лепш разглядзець.

Таксама памятаем пра **правілы працы з камп'ютарам**:

■ на манітор не павінны падаць прамыя сонечныя прамяні; праца з камп'ютарам не павінна перавышаць 2 гадзіны ў дзень для школьнікаў старэйшых класаў і гадзіну для малодшых класаў, праз кожныя 30 хвілін перапынак на адпачынак;

■ адлеглась ад экрана да вачэй – не менш за 50 см;

■ у памяшканні з камп'ютарнай тэхнікай штодня павінна праводзіцца вільготная ўборка.

**Поспехаў у новым навучальным годзе і захоўвайце сваё здароўе!**

# Вызначыны тэрміны збору ягад



**Ліпень – верасень – месяцы збору ўраджаю ягад. Нягледзячы на тое, што ліпень выдаўся не вельмі гарачым, у лясах выраслі ягады: чарніцы, маліны, растуць брусніцы, журавіны, хутка пачнуць расці грыбы. Людзі карыстаюцца дарамі лесу ў поўным аб'ёме.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штогод рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ўсталёўваюцца тэрміны збору ягад журавін і брусніц. Чарніцы, маліны, дурніцы можна збіраць у любы час, але толькі дазволенымі спосабамі і сродкамі, г.зн. рукамі.

Збор ягад брусніц на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволены з **3 верасня**, журавін з **10 верасня** 2015 года.

Грамадзяне, якія парушаюць названыя тэрміны збору ягад брусніц і журавін альбо якія ажыццяўляюць збор ягад забароненымі метадамі і прыстасаваннямі (грабянцы, камбайны і г.д.), будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.2 арт. 15.26 КоАП Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адказнасць у выглядзе папярэджання або штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненай шкоды, за кожны кілаграм сабраных ягад 2,2 базавай велічыні або 396 тысяч рублёў.

У сувязі з надышоўшым гарачым надвор'ем рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ў цяперашні час забаронена наведванне лясоў грамадзянамі, незалежна ад мэты наведвання, у тым ліку і для збору ягад. За парушэнне названых правілаў, грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Толькі за жнівень у вобласці за парушэнне правілаў наведвання лясоў у пажаранебяспечны перыяд прыцягнута да адказнасці больш за сорак чалавек і амаль сто грамадзян папярэджаны кантралюючымі службамі.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі не толькі вядуць кантроль за выкананнем тэрмінаў і правілаў збору, нарыхтоўкі ягад, але таксама вядуць кантроль у рыбалоўных і паляўнічых угоддзях.

Так 21 жніўня 2015 года каля 21 гадзіны затрыманы жыхар горада Ушачы за здабычу рыбы забароненым прыладай рыбалоўства сеткай на возеры Белае Глыбоцкага раёна. Матэрыял у дачыненні да гэтага грамадзяніна накіраваны ў Глыбоцкі раённы суд.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да захавання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выражаюць падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы і неабыякавыя да захавання нашай прыроды.

**«Тэлефон даверу»: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

# У Паставах паставілі п'есу «Як мужык жонку шукаў»

**Пастаноўка адбылася 27 жніўня ў канцэртнай залі горада.**

Гэту п'есу Марына Танона і Наталля Каравацкая напісалі 13 гадоў таму, калі працавалі ў сельскай школе ў Балаях. Там жа адбылася і першая яе пастаноўка.

У п'есе распавядаецца, як вясковы мужык Васіль выгнаў з хаты сваю жонку Насту і стаў прасіць дзядкачараўніка даць яму лепшую: прыгожую, маладую і каб да яго не чаплялася. Дзядок даў яму тры спробы. І ўсе кандыдаткі нечым не падабаліся Васілю. У канцы ён звяртаецца да самога Бога. Бог дае яму шанец выбраць жонку з некалькі кандыдатак, у якіх закрытыя твары. І Васіль выбірае сваю Насту, што яго вельмі абрадавала.

Галоўную ролю ў п'есе сыграў Яўген Леўшын. Яго ігра вельмі спадабалася гледачам, хаця па яго словах, ён упершыню выступаў на сцэне ў якасці самадзейнага актора. Асабліва выкананне твора спадабалася Марыне Таноне, якая прысутнічала ў залі і была ў захапленні ад выканання свайго твора.

Галоўным арганізатарам пастаноўкі п'есы была супрацоўніца Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі Людміла Сяменас. Акторамі выступілі сябры пастаўскай суполкі ТБМ. Яны крыху адаптавалі твор пад сучаснасць.

*Зміцер Лупач*



# У Мёрах пройдзе экалагічны фестываль «Жураўлі і журавіны Мёрскага краю»



**Асноўныя мерапрыемствы фестывалю пройдуць 20 верасня ў зоне адпачынку «Паўвостраў». У гэтым годзе плануецца платны ўваход на мерапрыемствы: дарослы білет будзе каштаваць 20 тысяч рублёў, дзіцячы - 10 тысяч. Дзецям да шасці гадоў уваход будзе бясплатны.**

■ **Зміцер Лупач**

Падчас фестывалю жадаючыя могуць паназіраць за жураўлямі, аўтобусы будуць адпраўляцца ад «Паўвострава» на працягу дня па меры камплектавання груп. На паўвостраве будуць працаваць атракцыёны, інтэрактыўныя пляцоўкі грамадскай арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны», будзе арганізаваны фірмовы гандаль прадукцыяй мёрскіх прадпрыемстваў. Таксама ў Мёрскай цэнтральнай бібліятэцы будзе праходзіць выстава экалагічнай літаратуры.

# Праграма фестывалю «Жураўлі і журавіны Мёрскага краю»

**Зона адпачынку «Паўвостраў»**

**11.00** – адкрыццё выставы-продажу вырабаў народных майстроў «Журавель-чарадзей» з правядзеннем майстар-класаў

**11.00** – канцэртная праграма калектыву «Пралеска» Даўгаўпілскага Цэнтра беларускай культуры (Латвія)

**11.00 – 12.00** – конкурс падворкаў сельскіх Саветаў Мёрскага раёна «Сёння на падвор'і свята»

**12.00** – урачыстае адкрыццё свята, узнагароджанне пераможцаў раённага конкурсу па добраўпарадкаванню, пераможцаў конкурсу падворкаў сельскіх Саветаў

**13.00** – конкурсная шоу-праграма «Мёрская журавінка»

**14.00** – канцэртная праграма фіналістаў конкурсу «Маладыя галасы Беларусі» і зорак беларускай эстрады

**22.00** – святочная тэматычная дыскатэка

